*С. Праабражэнскі*

# МЯЧЫК

*(П'ЕСКА ДЛЯ МАЛЫХ ДЗЯЦЕЙ)*

Прымаюць удзел:

**Рыгор**
**Петрык** (старэйшы за другіх).
**Міколка**
**Таня**
**Маня**
**Ніна**

Месцам дзеі можа быць пакой, сад, вуліца і пляцоўка.

## Зьява І-я

(Петрык, Міколка, Таня, Маня).

Пачынаецца дзея з агульнай песьні. (Песьню можна сьпяваць па свайму выбару).

Пасьля сьпеваў:

**Таня.** А чаму няма Рыгоркі?
**Маня.** І Ніны няма.
**Петрык.** Дваіх толькі няма, а ўжо сумна.
**Міколка.** Калі ўсе, куды весялей.
**Петрык.** Але-ж яны яшчэ прыдуць.
**Міколка.** Давайце цяпер гуляць у конікі.
**Маня.** Не, лепш у схованкі.
**Міколка.** У конікі.
**Петрык.** Пачакайце, ня крычэце. Мы зробім так: згуляем і ў схованкі, і ў конікі.
**Таня.** Я буду за фурмана.
**Міколка.** Дзяўчаткі ня бываюць фурманамі.
**Петрык.** Нічога, у нас будуць. Па чарзе: спачатку фурманамі будуць Таня і Маня, а потым мы, добра?.. Ну, запрагайся.

(Ідзе ажыўленая падрыхтоўка да гульні).

## Зьява 2-я

(Тыя-ж і Ніна)

**Ніна.** (*Убягаючы*). Што я ведаю. Што я ведаю.
**Усе.** Што-ж ты ведаеш? Ну, кажы.
**Ніна.** Рыгору тата мячык купіў. Вялікі. Вось гэтакі. (*Паказвае рукамі*).
**Маня.** Ну, цяпер-жа мы і пагуляем.
**Таня.** У перакідкі.
**Міколка.** Не, мы будзем качаць яго.
**Ніна.** А я думаю, што лепш у што іншае.
**Петрык.** Ну, а пакуль што давайце ў конікі гуляць.
**Таня.** Я не хачу гуляць. Я хачу мячыка.
**Маня.** І я таксама.
**Міколка.** Хлопцы, Рыгорка ідзе.

## Зьява 3-ая

(Уваходзіць Рыгорка з мячыкам)

**Усе.** Гура! Вось гэта мячык. Пагуляем.
**Ніна.** У мяне ёсьць, ды толькі маленькі і стары, а гэты во які.
**Рыгорка.** Гэта мне тата купіў.
**Міколка.** Дай разок... стукнуць.
**Рыгорка.** Ён новы, запэцкаецца.
**Петрык.** Нічога. Мы яго потым вытрам. Давай.
**Рыгорка.** Не. Я сам буду адзін гуляць.
**Ніна.** Як адзін? А мы?
**Рыгорка.** А вы як хочаце. Вы глядзеце.
**Таня.** Глядзець няцікава.
**Маня.** Ну, дай патрымаць.
**Рыгорка.** Не, ня дам. Ён мой. Мне яго тата купіў.
**Міколка.** А мы адбярэм.
**Рыгорка.** Папробуй. А я адзін буду гуляць. (*Ідзе*).
**Маня.** Я хачу мячык.
**Міколка.** Адабраць у яго.
**Ніна.** І скупы які, ня даў пагуляць.
**Петрык.** Пачакайце, дзеці, ня даў, і ня трэба.
**Таня.** Як ня трэба. А мне хочацца.
**Петрык.** Пачакайце, няхай ён адзін пагуляе, яму сумна стане, ён зноў да нас прыдзе. Але тады мы яго ня прымем.

(*Працяг глядзі на 3-й стар. вокладкі*).

11389
Бе III 27

XVIII 8019 (III)

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 7-8 ліпень-жнівень 1930

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

ДЕРЖАВНА ПУБЛІЧНА БІБЛІОТЕКА ОДЕСА -4 11 30




*Апавяданьне А. ЯКІМОВІЧА.* *Мал. РОЗАНАВА.*

Дзяўчынка Сонька не магла прычакацца восені. Так ёй здоўжылася сяголетняе лета, так абрыдзела...

Гэта-ж матка дакляравала пусьціць яе сёлета ў школу вучыцца. Сонька моцна хацела і прасілася ў школу ўжо летась. Тады пачала хадзіць вучыцца яе сяброўка Манька. І цяпер яна ўжо будзе ў другой групе. Яна ўмее чытаць і пісаць. Нават навучыла Соньку напісаць і прачытаць сваё імя. О, якая радасьць была ў дзяўчынкі,—гэта-ж ня жартачкі ўмець прачытаць і напісаць сваё імя?! Але і зайздрасьць бярэ Соньку, як паглядзіць на Маньку: яна дык увесь лемантар можа прачытаць. „Ну, няхай сабе,—думае Сонька,—я даганю, буду старацца і даганю“.

І вось прышла восень—пара вучыцца. Манька прыбегла і сказала:

— Зьбірайся, Соня, пойдзем у школу. Ужо, кажуць, запісваюць.

Сонька, як і заўсёды, забаўляла меншага брацiка Валодзю. Яна так зарадавалася напамінку аб школе, што кінула брацiка аднаго ў калысцы і пабегла на гумно. Там яе матка абівала на таку лён.

Дзяржаўная бібліятэка БССР

— Мамка, мамачка!..

— Чаго дачушка?

— У школу ідуць...

Мацi адразу здагадалася, што гэта азначае. Яна дакляравала дачцы, што пусьціць яе сёлета ў школу. Але-ж гэта было год таму назад. Думалася, што сёлета можа работы паменшае, дык сама будзе няньчыць малых. Аднак-жа ўсё роўна: год прабег і тое-ж самае. Валодзік яшчэ малы—другі год, Юзіку таксама толькі тры, нічога не паможа ў гаспадарцы. А Сонька самая нянька і работніца. Як-жа яе пусьціць у школу? Не выпадае. І матка сур'ёзна задумалася. Што зрабіць? Зноў ня пусьціць—крыўдна дзіцяці, няхай-бы бегала, як другія дзеці, чым-жа яна горшая? І нідзе ніякага паратунку.

— Дык мне бегчы, мамачка?—просіцца Сонька.

— Сёньня запісваюць усіх,—сказала Манька, якая прыбегла ўсьлед за Сонькай.

— А з кім-жа Валодзіка пакінула?—раптам успомніла мацi.

У Сонькі закалацілася сэрца. Брацiка яна пакінула аднаго ў калысцы... Ён можа лёгка вываліцца...

— Ён дома,—сказала Сонька і кінулася бегчы.

Брацік Валодзя, не дачакаўшыся нікога, парашыў самому вылезьці з калыскі...

Калі Сонька прыбегла ў хату, Валодзік ужо ляжаў на зямлі і нема крычаў. У хату ўвайшла і матка.

— Ну вот табе і школа,—напалохалася яна, убачыўшы акрываўлены твар сына. Дзе-ж твой розум?—Я-ж табе пакажу школу!

І матка моцна набіла Соньку.

Так няўдала пачалася для Сонькі гэта доўга-чаканая восень. Цяпер матцы і не ўспамінай пра школу.

Сядзіць Сонька ў хаце за калыскай і журбуе па школе. Ужо тыдзень як ходзяць вучыцца. „Прапала, думае яна, каб і пайсьці цяпер—ня прымуць“. Але і ў хаце ня ўседзець. І парашыла Сонька ўсё-ж пайсьці. „Хоць запішуся, думае яна, папрашу каб лемантар далі, дык буду дома вучыцца“.

Яна прывязала Валодзіка да калыскі (цяпер не зьбяжыць!)



і пабегла ў школу. Якраз быў перапынак. У школе Сонька ўбачыла Маньку і яны ўдваіх парашылі падысьці да настаўніка. „Адной дык боязна“, кажа Сонька, „а ты-ж тут усё ведаеш“.

Настаўнік пахваліў Соньку, што такая малая ды хоча вучыцца, разгаварыўся з ёю, аб усім распытаў. І Сонька яму пра ўсё расказала: як ёй матка дакляравала яшчэ летась пусьціць вучыцца, як выкінуўся з калыскі яе брацік і яна засталася зноў дома...

Настаўнік штосьці падумаў, падумаў ды кажа:

— Не бядуй, Сонька, ты будзеш вучыцца!

— Ого, каб гэта можна было,—задумліва адказала яна.

— Гэта можна будзе! Твой брацік будзе ў колгасных дзіцячых яслях, а бацька ў колгасе, а ты—у школе. Вось як будзе! Добра?

— Вельмі добра,—зарадавалася Сонька. „Ня быў-бы настаўнік“—падумала яна.„Гэта-ж лепш ня трэба“.

---

І вышла ўсё так, як казаў настаўнік. Бацька, убачыўшы, што толькі ў колгасе ён можа жыць лепей, згадзіўся пайсьці



ў колгас. Ён—бядняк і даўно хацеў стаць колгасьнікам. Але ня пускала жонка. Цяпер і матка вымушана была зразумець перавагу колгасу.

— Ды я ўжо і сама хацела гнаць свайго, — казала маці.— Але-ж сорамна: раней ня пускала, а цяпер... Калі-ж бо і сапраўды ў колгасе лепш: іх і дзеці вучацца, і працуюць яны менш, і маюць больш. А гэтак жыць няма як...

Цяпер Сонька разам з усімі дзецьмі бегае ў школу і вучыцца чытаць і пісаць. Цяпер гэта можна.

# КАЗКА ПРА МОТКУ І ЯГОНУЮ КАПОТКУ

Жыў-быў на сьвеце Мотка.
У Моткі была капотка,

а на капотцы латак —
больш, як у вёсцы хатак.

Плакаў зімою Мотка:
— Дрэнная вельмі капотка...

Тата сказаў раз Мотку:
— Новую купім капотку.

Летам, як грошай заробім —
зараз-жа гэта і зробім.

Хваліцца хлопцам Мотка:
— Новая будзе капотка!..

Хутка настала лета.
Тата пашоў за Саветы





біцца з буржуем пузатым,
з панам змагацца багатым.

Так і застаўся Мотка
зноўку бяз цёплай капоткі.

Покуль там біўся тата
з тоўстым буржуем пузатым,

тут наляцела ў вёску
белае панскае войска.

Тоўстыя ўсе афіцэры,
ходзяць у вопратках шэрых.

Зьбілі дзяцей бізунамі,
рукі адрэзалі маме.

Мотка страшэнна спужаўся,
ціха за печку схаваўся.

Пан-афіцэр тоўстабрухі
выцягнуў Мотку за вуха.

Шашкай парэзаў капотку,
грозна загадвае Мотку:

— Вычысьці панскія шпоры
так, каб зіхцелі, як зоры!..

Плача пакрыўджаны Мотка,
шпоры шаруе капоткай.

Едзе чырвонае войска
вызваліць бедную вёску.





Выгналі гэтак буржуяў,
больш яны ў нас не пануюць.

Моткаў вярнуўся тата
ў новай шынэлі дахаты.

З гэтай шынэлі Мотку
хутка пашылі капотку.

Дваццаць вязуць гарматаў,
страшна буржуям пузатым.

Бегма паны уцякаюць,
коньніца іх даганяе.

Дзеці сялян і рабочых
разам з чырвонымі крочаць:

сьпешна падносяць
патроны,
дапамагаюць чырвоным.

Моцна гарматы страляюць,
конна паны уцякаюць.



# Нялюбая гадзіна



Апавяданьне К. Дзьмітравай. Мал. Хмялеўскай.

Сёньня ў дзіцячым доме цэлае здарэньне: прынесьлі хлопчыка Юрку. Усе дзеці акружылі Юрку. Кожны стараўся пагутарыць з ім:

— Юрачка, Юрачка, паглядзі, як мы вырэзваем,— шчабеча шустрая Гэлька, паказваючы выразаных зьвяроў.

— А вот паглядзі, Юрка, які дом мы намалявалі.

Але Юрачка на ўсё глядзіць спадылба, ваўчком... Потым раптам кажа да настаўніцы:

— Я дадому хачу, к маме...

Цётка Каця ўзяла за руку Юрачку і павяла яго да нізкага доўгага століка. Кругом стала сталі маленькія дзіцячыя табарэткі.

— Садзіся тут, Юрачка. Зараз будзем працаваць





Бе 1187

і ты скора і сам дадому не захочаш,—ласкава сказала цётка Каця.—І ўсе дзеці сядайце. Зараз пачнем маляваць. Дастаньце свае сшыткі і алоўкі.

Усе скора паселі і пачалі маляваць. Потым дзеці клеілі. Нарэшце цётка Каця ім чытала цікавую кніжку, потым хадзілі гуляць, абедалі... Юрка скора перастаў нудзіцца і прасіцца дадому. Ён пасьпеў ужо з усімі пазнаёміцца.

Але вось прышоў час адпачынку—мёртвая гадзіна, калі ўсе дзеці лажацца спаць. Юрка таксама лёг, але спаць ня мог. Хлопчык доўга сумаваў, варочаўся, тады калі ўсе дзеці заснулі... Ледзь-ледзь ён выляжаў гэтую „нялюбую“ мёртвую гадзіну.

Увечары дома бацька запытаўся ў яго:

— Ну, раскажы, Юрачка, як табе спадабалася ў дзіцячым садзе?

Юрка стаў борзьдзенька гаварыць:

— Усё, усё вельмі спадабалася. І весела і цікава, толькі вось гэта гадкая мёртвая гадзіна. Я ледзь выляжаў. Калі і заўтра яна будзе, я не пайду...

На заўтра матка ўсё-ткі завяла хлопчыка ў дзіцячы сад. Яна гаварыла аб гэтай мёртвай гадзіне з настаўніцай, і цётка Каця ўзяла гэта на ўвагу. Калі ўсе дзеці заснулі, яна падышла да Юркі і расказала, як карысна, як здорава адпачываць дзецям...

З часам Юрка асвойчыўся з „мёртвай гадзінай“. Ён так прывык, што моцна спаў разам з другімі дзяцьмі.

г. Харкаў.

Бе 1187



# Зьлёт пролетарскіх дзяцей.

**Зьлёт сарваць не ўдалося.**

У мінулым нумары часопісі мы пісалі, што міжнародны зьлёт пролетарскіх дзяцей адбудзецца ў горадзе Гальле. Да зьлёту ўжо амаль што падрыхтаваліся. Праз некалькі дзён у гор. Гальле мусілі ўжо зьяжджацца пролетарскія дзеці з усіх куткоў сьвету.

Але ў самыя апошнія дні буржуазная ўлада гор. Гальле забараніла зьлёту зьбірацца ў сваім горадзе. Як ня дзіўна, буржуазія напалохалася дзетвары. Улада гор. Гальле нават не змагла высунуць колькі-небудзь сур'ёзных прычын, чаму яны забараняюць зьлёт у сваім горадзе. Але-ж гэтыя прычыны для нас вядомы: буржуазіі гэты зьлёт не на карысьць; зьлёт меў на мэце організаваць усю пролетарскую дзетвару супроць буржуазіі і яе парадкаў. Горад Гальле зьяўляецца адным з буйных прамысловых цэнтраў. Вось дзе прычына, чаму буржуазія напалохалася зьлёту.

Супроць забароны зьлёту ў горадзе Гальле паўсталі ўсе працоўныя сьвету і іх дзеці. Аднак, гэтая забарона не магла сарваць зьлёт. Пролетарыят



**Нашы дэлегаты на зьлёт.** *Гуляюць у валейбол (у г. Маскве).*



**Нашы дэлегаты на зьлёт.** *Каўкаская піонэрка-дэлегатка зьлёту—танцуе лізгінку.*

Бэрліну запрасіў зьлёт да сябе, у свой горад. І зьлёт сабраўся ў сталіцы Нямеччыны—Бэрліне.

## Пабаяліся пусьціць савецкіх піонэраў.

У самы апошні дзень перад выездам савецкай дэлегацыі, буржуазная ўлада Нямеччыны паведаміла, што яна не дазваляе нашым піонэрам прыехаць на зьлёт. Нямецкая буржуазія страшэнна баіцца ўсяго савецкага. Саветы—гэта яе пагібель. Буржуазія стараецца затуманіць вочы ўсім працоўным, што Савецкая краіна дажывае свае апошнія дні, што ў ёй усё разбурана, нічога ня робіцца... Гэтая хлусьня аб нашай краіне патрэбна буржуазіі, каб давесьці працоўным, што рэволюцыя непатрэбна, бо самі рабочыя і сяляне, без капіталістых і памешчыкаў, кіраваць сваім жыцьцём ня могуць.

Буржуазія ведала, што нашы піонэры ехалі на зьлёт раскажаць праўду аб сапраўдным жыцьці савецкай краіны. Савецкая дэлегацыя стала-б цэнтрам увагі на зьлёце. Усе дэлегаты зьлёту і ўсе працоўныя Бэрліну з нецярплівасьцю чакалі нашых піонэраў. Кожнае слова савецкага піонэра зрабіла-б больш, чым тысячы прадажных буржуазных газэт, што пашыраюць пра нас хлусьню.

Але дарэмна перастараўся нямецкі ўрад. Тое, што мелася

сказаць на зьлёце наша савецкая дэлегацыя, сказалі піонэры іншых краін.

### Пагоня за піонэрамі.

Ня лёгка было папасьці на зьлёт і многім дэлегацыям з іншых буржуазных краін. Былі такія выпадкі, што дэлегаты цішком уцякалі ад паліцэйскіх, каб папасьці на зьлёт. Паліцыя буржуазных краін усімі мерамі старалася перашкодзіць зьлёту: забаранялі законны выезд на зьлёт, не давалі дазволу на права пераезду граніц і інш. У школах настаўнікі пагражалі дзецям, што іх звольняць са школы, калі толькі яны будуць выбіраць кандыдатаў на зьлёт.

Чэха-славацкія піонэры расказваюць, што паліцыя наладзіла за імі цэлую пагоню, каб дагнаць і ня пусьціць на зьлёт. І толькі выпадкова ўдалося ўцячы.

Бэльгійская піонэрка расказала, што многіх дэлегатаў зьлёту паліцыя арыштавала і кінула ў турму.

### Што было на зьлёце.

Зьлёт працаваў тры дні. На зьлёце адзін за другім выступалі дзеці розных краін і гаварылі аб тым, як цяжка жывецца дзецям, як яны змагаюцца супроць буржуазнай улады і яе парадкаў. Піонэры і ўсе пролетарскія дзеці, разам з бацькамі, сьмела выходзяць на вуліцу і дамагаюцца сваіх праwoў.

Чэха-славацкі піонэр расказаў зьлёту, як аднаго разу ў час дэмонстрацыі паліцыя накінулася на піонэраў з штыхамі. Многія піонэры былі арыштаваны. Паліцыя зьдзекавалася з арыштаваных, біла іх і прымушала, каб яны выдалі сваіх таварышоў. Але гэтага паліцыі дабіцца не ўдалося.

Дзеці замежных краін вымушаны працаваць на фабрыках, гэтак-жа, як і дарослыя.

У Бэльгіі маленькія дзеці працуюць нават у шахтах, глыбока пад зямлёю. Працуюць па 12—15 і больш гадзін у суткі. Ясна, што вучыцца такім дзецям зусім немагчыма.

І так усюды. Голад, холад, нязвычайна цяжкая праца сустракаюць пролетарскіх дзяцей з першых дзён іх жыцьця.

Зьлёт прыняў многа розных пастаноў аб далейшай працы пролетарскіх дзяцей.

Пры заканчэньні зьлёту былі заключаны чатыры міжнародныя дагаворы на соцспаборніцтва.

Зьлёт прынёс вялікую карысьць. Ён паклаў моцны падмурак для згуртаваньня ўсіх пролетарскіх дзяцей пад сьцягамі рэволюцыйнага змаганьня.

# ІНАЧАЙ БЫЦЬ НЯ МОЖА

*Апавяданьне з жыцьця нямецкіх дзяцей.*

Дзевяцігадовы Карла сёньня адзін дома. Маці некуды вышла. Бацькі ўжо два тыдні ня відаць. Але Карлу не палохае гэта. Ён ведае, што бацьку шукае паліцыя, і, значыцца, добра, што яго няма дома.



*Перад ім, за сталом, сядзеў чалавек у паліцэйскай вопратцы.*

Бацька Карла комуністы. Вось чаму яго шукаюць. І хто?— Дурныя паліцэйскія, якія нават ня ведаюць, што такое комуністы.

А Карла ведае. Добра ведае. Карлу часта гаварыў аб гэтым бацька. Ён з вялікай цікавасьцю слухаў бацькавы апавяданьні пра тое, што такое комуна. Комуністы хочуць, каб усе людзі працавалі і каб усім працоўным жылося добра.

Думкі Карла пераходзяць на другое. Вось яго таварышы па школе таксама не разумеюць, што такое комуністы. Пакуль што ён, Карла, адзіны комуністы ў сваёй школе.

Учора яшчэ яго хацелі пакрыўдзіць. Але ён ня даўся. Ён не з такіх. Схапіў сваю папружку, якою зьвязваў кніжкі, стаў каля сьцяны і пачаў размахваць кругом.

Двое з вучняў нават заступіліся за яго. Цяпер іх два і адзін. Значыцца трое, а трое—гэта ўжо цэлы саюз.

Карла пачуў шагі—нехта ідзе. Але не, гэта ня матка. Карла пазнаў-бы шагі маткі. Па ўсходках ідзе некалькі чалавек. Хто гэта можа быць?

Адчыняюцца дзьверы і ўваходзяць трое. Ён ня ведае іх. Той, што ўвайшоў першым, высокі чалавек з вялікімі вусамі, ласкава ўсьміхаючыся, пытаецца:

— Ты адзін тут, хлопчык?

Карла ківае галавою.

— А дзе маці?

Вышла ў краму.

— А дзе тата?

Карлу як-бы хто моцна ўшчыпнуў. О, ён ня скажа, дзе бацька.

— Тата паехаў,—зманіў ён.

— Куды?

Карла адказаў, што ня ведае.

Высокі чалавек не пакідае дапытвацца. Ён патрабуе, каб хлопчык сказаў яму, дзе тата.

— Не, не. Я ня ведаю.

Высокі чалавек сярдзіта гладзіць вусы.

— А калі я цябе ў турму забяру?—злосна кажа ён.

У Карлы затахкала сэрца. Але ён ня скажа нічога. Ён ня ведае, ня ведае.

Карлу вядуць з хаты, выводзяць на вуліцу і саджаюць у аўтомобіль. Яму крыху страшна, але на аўтомобілі праехацца ўсё-такі ня кепска.

Праз паўгадзіны ён апынуўся ў вялікім, прыгожым пакоі. Ад залішняга яркага сьвятла Карла доўга моргаў вачыма. Але скора прызвычаіўся.

Перад ім, за сталом, сядзеў чалавек у паліцэйскай вопратцы. Карла так зацікавіўся рознымі дзівамі, што сьпярша ня чуў, калі яго паклікаў грубы голас. А калі пачуў, адразу ўспомніў:

„Усё скажу, толькі не пра бацьку“.

— Колькі табе год? Як цябе зваць? Ці ходзіш у школу?

Карла адказаў.

— А ці хочаш ты есьці?

Так, так, ён хоча. Ужо цяпярся як ён абедаў.

Чалавек націснуў на стале на нейкі гузік і тут-жа зьявіўся паліцэйскі. Праз дзьве хвіліны Карла са смакам еў хлеб і кілбасу. У час яды Карла многа гутарыў з гэтым чалавекам. Чаму-б не пагутарыць? Ён нават вельмі далікатны чалавек.

Карла адкінуўся на сьпінку крэсла. Ён пад'еў. Але мілы чалавек падаў яму шклянку шакаладу.

Карла не адмаўляецца. Але, падаючы шклянку, чалавек раптам борзда і ціха загаварыў:

— А дзе твой бацька?

Карла занямеў.

— Дзе твой бацька?

Маўчыць.

— Дзе твой бацька, кажы?

Карла захліпаецца. Ён дрыжыць, але не баіцца. Няхай крычыць, колькі хоча.

— Ну, скажаш ты ці не?



*Праўда, мама: комуністыя ніколі ня могуць быць здраднікамі?*

Карла ступіў шаг наперад.

Юны комуністы ня можа быць здраднікам...

Мінула хвіліна, другая...

Начальнік паліцыі і хлопчык Карла стаяць адзін насупроць другога. У вялікім пакоі поўная цішыня, толькі насьценны гадзіньнік цікае:

— Так-так-так...

Нехта ўвайшоў.

— Вас просяць.

Начальнік груба вылаяўся і вышаў.

Карла ўпаў у крэсла. Ён дрыжыць, хочацца плакаць, але не— ён ня будзе тхімкаць.

Мінула некалькі хвілін. Ніхто ня прыходзіць. Карлу стала страшна аднаму. Ён саскочыў з крэсла, пабег да дзьвярэй і стукнуў.

О, дзіва!— дзьверы адчыніліся. Адважная думка зьявілася ў яго. Зірнуў з-за дзьвярэй. Нікога. Хвіліна—і ён ляціць з усходкаў. Ён каля брамы. За ёю салдаты. Карла адчыняе браму, выходзіць. Салдаты-вартаўнікі не чапаюць яго. Сэрца хлопчыка як не разарвецца. Але ён бяжыць, бяжыць, бяжыць.

— Мама!..

Карла падбягае да маткі. Праз сьлёзы расказаў ён матцы пра ўсё, што з ім здарылася.

Праз паўгадзіны ён на пасьцелі. Ён ужо заплюшчыў вочы, але раптам устаў і сонным голасам запытаўся:

— Праўда, мама: комуністыя ніколі, ніколі ня могуць быць здраднікамі?

І, не чакаючы адказу, упэўнены, што іначай і быць ня можа, моцна заснуў.

З нямецкай пераклаў

**А. Бязыменскі.**



*Зьм. Астапенка*

# АКЦЯБРАТЫ

Мы, і хлопцы і дзяўчаты,
Маладыя акцябраты,

Гуртам, дружна і вясёла
Цэлы дзень працуем сёньня.

На стале Янук з Рыгорам
Ладзяць разам дзіўны горад.

І з раскіданых запалак
Адбудоўваюць кварталы.

А ля іх Алесь і Таня
Ужо заканчваюць трамваі.

Таня з сіняга картону
Хутка склейвае вагоны,

Ля яе Алесь, Андрэйка
Пракладаюць роўна рэйкі.

А з паперы Янка з Мірай
Выразае пасажыраў.

Узрастаюць сьцены горда,—
Гэта будзе хвацкі горад.

Будуць шумныя заводы,
Самалёты, параходы...

Параходы з капітанам
Паплылі каля кварталаў.

Ад заводаў гордых, статных
Дым завіўся з белай ваты.

Паімчалі гучна, грозна
Ўдаль за горад паравозы,





Прамінаючы заводы,
Закружылі самалёты...

Таня, скончыўшы трамвай,
Звонка песьню запявае.

Дружна песьню зацягнулі,
Пачаліся скокі, гульні.

Мы, і хлопцы і дзяўчаты,
Маладыя акцябраты,

Гуртам, дружна і вясёла
Цэлы дзень працуем сёньня.

# ФАШЫСЦКАЯ ЗЬМЕНА

Мусоліні, правадыр фашыстых, вельмі клапоціцца аб падрыхтоўцы фашысцкай зьмены. Фашызм накладае свае лапы на дзяцей, як толькі яны родзяцца. Муштраваньне зводзіцца да таго, каб ня даць дзіцяці самому думаць. „Бойся і слухайся, рабі, што загадваюць“—такі закон у фашыстых.

Дзеці заганяюцца ў фашысцкія арганізацыі прымусам. Бяз гэтага яны ня могуць папасьці ні на пляцоўку, ні ў дзіцячыя сады, ні на курорт, ні проста ў школу.

Усё фашысцкае выхаваньне пабудавана на ваенны лад. Маладыя фашысты рыхтуюцца да вайны і да змаганьня, галоўным чынам, супроць выступленьняў рабочых і сялян. Яны павінны ўмець страляць у дэманстрацыі рабочых, падпальваць вёскі.

Камандуюць гэтымі арганізацыямі афіцэры. Усе члены фашысцкай арганізацыі вучацца ў спэцыяльных ваенных школах.

Да 18 год гэтае выхаваньне канчаецца. Усякая вольная думка вытручана. Кожны год, 23 сакавіка, у дзень, калі фашызм пачаў сваё панаваньне, усімі членамі арганізацыі даецца прысяга на вернасьць фашызму.

Так рыхтуецца фашысцкая зьмена. Але-ж гэта ня выратуе буржуазію ад нямінучай пагібелі. Пролетарскі рух усё ўзмацняецца. Італьянскі комсамол цішком зьбірае свае сілы. Нядаўна моладзь у гадавіну сьмерці Леніна запаліла на гары 40 агнёў. Італьянская моладзь зьбірае грошы, каб набыць кулямёт для Чырвонай арміі.

Ня выратавацца фашыстым ад сваёй загубы!

Пераклаў з нямецкае мовы Л.

# ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ

*выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.*



**Агульны выгляд часткі выстаўкі.**

* *
*

Нядаўна мы сьвяткавалі дзесятую гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Дзесяць год таму назад у Беларусі шугала полымя вайны, дыміліся пажары; заместа многіх вёсак і гарадоў, тырчалі абгарэлыя сьцены. Людзі хаваліся па лясох, як дзікуны, каб пазбавіцца



*Павільён прамысловасьці.*

ад белапанскай навалы. Фабрыкі і заводы былі разбураны, на палёх чарнеліся ямы ад снарадаў, у беспарадку валяўся калючы дрот, асколкі рознай зброі... Жудасны малюнак прадстаўляла з сябе наша краіна.

Але гэта ў мінулым. За дзесяць год савецкай улады ўсё зьмянілася. Беларусь ня толькі аднавіла разбураныя заводы, пакалечаныя снарадамі палі,— яна шагнула далёка наперад. Беларусь становіцца краінай фабрык і машын. На нашых палёх загулі трактары... „Сошка ды баронка“ беспаваротна адыходзяць у мінулае. Новыя спосабы апрацоўкі зямлі, новая форма гаспадаркі--колектывы— далі нячуваныя дагэтуль дасягненьні.

Усе гэтыя дасягненьні за дзесяць год і паказвае Першая



*Павільён друку.*

Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

* *
*

Недалёка ад Менску ўвачавідкі вырас прыгожы стройны гарадок. Там, дзе дагэтуль спакойна расла ярына, сумна выглядала з травы карчаўё,—цяпер, як мурашкі, мітусяцца людзі, красуюцца прыгожыя будынкі. Гэта — павільёны. Іх дваццаць чатыры. Раскошна і прасторна пабудаваныя, яны займаюць досыць вялікі пляц—75 гектараў.

У гэтых будынках выстаўлены самыя розныя экспонаты (рэчы, што паказваюцца на выстаўцы). Усе больш-менш значныя галіны нашай гаспадаркі ёсьць на выстаўцы. Тут можна бачыць, як лепш урабляць зямлю, якія перавагі мае колгас над дробнай гаспадаркай, паказаны розныя ўраджаі і растлумачана, на якой зямлі і дзе гэта вырасла. Многа будынкаў займаюць жывёлы.



*Павільён расьлінаводзтва.*

У будынках прамысловасьці паказана ўся наша вытворчасьць, пачынаючы ад запалак і канчаючы вялікімі складанымі машынамі.



*Павільён МОПР'у.*

На выстаўцы паказана ўся наша праца і змаганьне за лепшую будучыню на працягу апошніх дзесяці год. І гэта праца і змаганьне далі надзвычайна багатыя вынікі.

Дзесяткі тысяч працоўных пабудуць на выстаўцы.

Выстаўка працягнецца некалькі месяцаў.

# АСІНСТАН

*Нарыс*
*ВАЙНГАЎЗА.*

Балота, балота і балота...

Тры гады таму назад тут нельга было ні праехаць, ні прайсьці.

Вось што было на тым месцы Аршаншчыны, дзе цяпер вырасла магутная Асінаўская электрычная станцыя імя тав. Сталіна.

Рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будуюць новае, лепшае жыцьцё.

Там, дзе былі нетры, мусяць быць квяцістыя лугі, мусяць красавацца магутныя фабрыкі і заводы, мусіць быць добрае ўраджайнае поле. Толькі так мы можам перайначыць сваё жыцьцё, пабудаваць соцыялізм.

З Асінаўскіх балот ня было ніякай карысьці. А цяпер тут канчаецца пабудова Асінстану[1]) імя тав. Сталіна. Тры акругі— Ворша, Віцебск і Магілеў—будуць мець электрычны ток.

Увосень 1927 г. пачалі будаваць. На кліч партыі — пачынальніка і організатара будаўніцтва соцыялізму—прышлі тысячы рабочых, каб зьмяніць твар зямлі.

Пачалося змаганьне паміж людзьмі і балотам. Людзі капалі канавы, асушалі балота. Працавалі дружна, завіхаючыся.

Цяпер на балоце цэлы гарадок: пасёлкі для рабочых, амбулаторыі, майстэрні, электрастанцыя, дзе будзе выпрацоўвацца электрычнасьць.

Як-жа будуць здабываць электрычнасьць на Асінстане?

Здабываць электрычнасьць можна толькі знарочыстымі машынамі. А каб працавалі гэтыя машыны, патрэбен апал. Гэтым апалам на Асінстане зьяўляецца торф.

Торф вялікімі масамі будуць кідаць у печы. Ад печаў нагрэюцца катлы з вадою. Вада выпарваецца і сілаю пары працуюць машыны, якія вырабляюць электрычнасьць. Вада ў катлы падаецца па канаве з бліжэйшага возера Арэхі. Пара, якая круціць калёсы электрычных машын, пасьля скарыстаньня, ахалоджваецца і другою канаваю зноў ідзе назад у возера.

Так пры дапамозе торфу і возера будзе працаваць электрычная станцыя.

Электрычны ток па правадох пабяжыць на розныя заводы, дзе закруціць тысячы калёс. А гэта нам і патрэбна ад Асінстана. І гэта будзе зроблена ў самы бліжэйшы час—у 13 гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі.

---

[1]) Асінаўская станцыя.



*Модэль Асінаўскай электрастанцыі, якая знаходзіцца на Ўсебеларускай выстаўцы. Зьлева відаць возера Арэхі, адкуль падаецца вада для электрастанцыі.*

Дзяржаўнай бібліятэкі БССР

# БАБРУЙСКІ ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КОМ

*Старая лесапільня, на месцы якой вырас комбінат.*

У час вялікага будаўніцтва нам патрэбна безьліч матар'ялу. Горы цэмэнту, цэглы, дошчак, фанэры кожны дзень глытаюць нашы новыя волаты-заводы, якія цяпер будуюцца. Такога вялікага ліку матар'ялу не падрыхтуеш саматужным спосабам або на лядашчых заводзіках. Вось чаму прыходзіцца будаваць магутныя заводы, якія павінны рыхтаваць матар'ялы для нашага вялікага будаўніцтва. Адным з такіх заводаў і зьяўляецца **бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат.**

*Дрэва з рэчкі падаецца на завод.*

Комбінат—гэта некалькі фа
якія адзін другому памагаюц
трэбных матар'ялаў з дрэва.
Поруч з лесапільным завод
заводы па вырабу фанэры, дз
клею, тут-жа электрастанцыя
Працуюць заводы самымі
спосабамі. Работа робіцца ск
Узяць хоць-бы лесапільню.
мясьціўся каля рэчкі Бярэзін

*Лесапільня*

ходзяць да самай лесапільні.
ваюць. І дрэвы адно за дру
спосабам цягнуцца аж да
тут мала работы. Дрэва пр
пілы, атрымаюцца гатовыя
Дошкі зноў-жа машынным
ад пілаў імчацца да выхаду
дынак. На дварэ іх пакуюць
аўтомобілях і адвозяць куды
толькі наглядае за работаю
шына замяніла яго працу. Р
сама працуе ня горш машы
замяняе тут працу чалавека.

## ...ы КОМБІНАТ

...некалькі фабрык і заводаў,
...у памагаюць у вырабе па-
...ў з дрэва.
...ьным заводам знаходзяцца
... фанэры, дзьвярэй і рамаў,
...трастанцыя і інш.
...ды самымі ўдасканаленымі
... робіцца скора і добра.
...лесапільню. Комбінат разь-
...чкі Бярэзіна. Плыты пады-



...сапільня.

... лесапільні. Тут іх разьвяз-
...дно за другім машынным
...а аж да пілаў. Чалавеку
... Дрэва праскочыць цераз
...а гатовыя чыстыя дошкі.
...ашынным способам проста
...да выхаду праз увесь бу-
...х пакуюць на знарочыстых
...озяць куды трэба. Чалавек
...за работаю машынаў. Ма-
...о працу. Рака Бярэзіна так-
...орш машыны. Яна таксама
...у чалавека.



*Гатовыя дошкі адвозяцца ад заводу.*

І ня толькі лесапільня, усе заводы комбінату пабудаваны, як кажуць, па апошняму слову тэхнікі. Цікава, што бабруйскі комбінат зьяўляецца першым у Эўропе. Роўнага яму па велічыні і магутнасьці няма. Вырабы комбінату ўжо маюць посьпех на замежных рынках.

Бабруйскі комбінат гэта толькі адзін з тых заводаў-волатаў, якімі цяпер шпарка забудоўваецца наша краіна. Кожны новы год прыносіць усё новыя сотні заводаў і фабрык.



*Агульны выгляд часткі комбінату.*

# БАБРУЙСКІ ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КОМБІНАТ



*Старая лесапільня, на месцы якой вырас комбінат.*

У час вялікага будаўніцтва нам патрэбна безьліч матар'ялу. Горы цэмэнту, цэглы, дошчак, фанэры кожны дзень глытаюць нашы новыя волаты-заводы, якія цяпер будуюцца. Такога вялікага ліку матар'ялу не падрыхтуеш саматужным спосабам або на лядашчых заводзіках. Вось чаму прыходзіцца будаваць магутныя заводы, якія павінны рыхтаваць матар'ялы для нашага вялікага будаўніцтва. Адным з такіх заводаў і зьяўляецца **бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат.**



*Дрэва з рэчкі падаецца на завод.*

Комбінат—гэта некалькі фабрык і заводаў, якія адзін другому памагаюць у вырабе патрэбных матар'ялаў з дрэва.

Поруч з лесапільным заводам знаходзяцца заводы па вырабу фанэры, дзьвярэй і рамаў, клею, тут-жа электрастанцыя і інш.

Працуюць заводы самымі ўдасканаленымі спосабамі. Работа робіцца скора і добра.

Узяць хоць-бы лесапільню. Комбінат разьмясьціўся каля рэчкі Бярэзіна. Плыты пады-



*Лесапільня.*

ходзяць да самай лесапільні. Тут іх разьвязваюць. І дрэвы адно за другім машынным спосабам цягнуцца аж да пілаў. Чалавеку тут мала работы. Дрэва праскочыць цераз пілы, атрымаюцца гатовыя чыстыя дошкі. Дошкі зноў-жа машынным спосабам проста ад пілаў імчацца да выхаду праз увесь будынак. На дварэ іх пакуюць на знарочыстых аўтомобілях і адвозяць куды трэба. Чалавек толькі наглядае за работаю машынаў. Машына замяніла яго працу. Рака Бярэзіна таксама працуе ня горш машыны. Яна таксама замяняе тут працу чалавека.



*Гатовыя дошкі адвозяцца ад заводу.*

І ня толькі лесапільня, усе заводы комбінату пабудаваны, як кажуць, па апошняму слову тэхнікі. Цікава, што бабруйскі комбінат зьяўляецца першым у Эўропе. Роўнага яму па велічыні і магутнасьці няма. Вырабы комбінату ўжо маюць посьпех на замежных рынках.

Бабруйскі комбінат гэта толькі адзін з тых заводаў-волатаў, якімі цяпер шпарка забудоўваецца наша краіна. Кожны новы год прыносіць усё новыя сотні заводаў і фабрык.



*Агульны выгляд часткі комбінату.*

# ПРЫЗ

Апавяданьне *ГЕМА*

Малюнкі **В. Баюскіна**



## I

Гурток казацкіх хлопчыкаў сабраўся каля агню. Заўтра будзе байга—выперадкі на конях. Спачатку будуць ехаць старэйшыя, а потым малыя хлапчукі. Усім хочацца атрымаць першы прыз—прыгожае сядло.

Саліх і Гайдабул — лепшыя джыгіты—ездакі. Напэўна сядло атрымае адзін з іх.

Гайдабул —сын багатага бэя. У яго бацькі цэлы табун коняй. Заўтра ён выбера сабе лепшага рысака.

Бацька Саліха—бядняк. У яго толькі адзін конь, калматаногі Ахтабан. На ім будзе ехаць Саліх. Але ўсё-ж Гайдабул баіцца, каб яго не памінуў Саліх. Ён добра ведае спрыт Саліха і жвавасьць яго каня. Ахтабан ня раз ужо браў прызы на выпярэдніцтвах.

— Твой бацька жабрак,--кажа Гайдабул Саліху,—мой конь—не раўня тваёй падле. Сядло будзе маё.

Саліху хочацца стукнуць Гайдабула за такія кпіны. Але ён стрымліваецца.

— Пабачым,—кажа ён, і ідзе да свае хаты.

Заўтра Саліх прымчыцца першым. Ён пакажа Гайдабулу, хто з іх сапраўдны джыгіт.

## II

На байгу прыехала многа гасьцей-джыгітаў. З імі ганаровы госьць—самы стары бальшавік з Казыл-Арды. Месца пачатку байгі ў стэпу, за пяць кілёмэтраў ад аула[1]). Пакуль што змагаюцца за прыз старэйшыя, хлопчыкі з нецярплівасьцю чакаюць свае чаргі. Але вось нарэшце і яны пасталі роўнай шарэнгай і чакаюць загаду.

— Айда!—крычыць кіраўнік, і ўсе дзесяць джыгітаў імчацца наперад.

Саліх нізка прыпаў да сядла. Ён з усяе сілы сьціскае пяткамі бакі каня. Восем хлопчыкаў ззаду. Сьпераду яго адзін Гай-

[1]) Казацкая вёска.

дабул. Але Саліх узмахвае бізуном і Ахтабан пачынае выпярэджваць Гайдабула.

— Айда, айда!—крычыць Саліх, радуючыся, што перамагае. Цяпер ясна — ён прымчыцца першым.

Раптам ён пачуў тонкі, жаласны крык. Ён агледзеўся і задрыжаў: маленькае ягнятка адбілася ад чарады, а над ім кружыцца вялізная цёмная птушка.

— Гэта кумай. Страшная птушка кумай. Ня бачыць пастух ягняці, гоніць далей чараду.

Думаць няма калі. Саліх нацягнуў тужэй правы повад і паляцеў ратаваць ягня. Ззаду нешта крычалі таварышы і радаваўся Гайдабул.

Саліх забыўся на ўсё.

— Хаця-б пасьпець. Не спазьніцца. Скарэй, Ахтабан, скарэй! І Ахтабан прыляцеў у час. Сагнутыя пазуры птушкі ўжо сьціснулі напалоханае ягня. Саліх лупянуў бізуном па дужых крыльлях. Тады кумай злосна заклекатаў, выпусьціў ягня, а сам паляцеў уверх.

Цяпер толькі ўспомніў Саліх байгу, сядло і Гайдабула.

Байга скончылася. Чырвоны, потны Гайдабул мераў свайму каню новае сядло з прыгожымі ўзорамі. Ён з усьмешкай зірнуў на Саліха.

І Саліх панурым адышоўся ў бок. Яму хацелася плакаць. Але



што гэта? Стары, сівы госьць з Казыл-Арды ідзе проста да яго. Саліх ня ведае, дзе падзецца ад сораму. А ганаровы госьць падышоў зусім блізка і палажыў руку на плячо Саліха,

— Таварыш Саліх, — кажа ён, — ты першы джыгіт, а не Гайдабул. Я ведаю, чаму ты не атрымаў прыз. Няхай яго спажывае Гайдабул, але і ты атрымаеш сваё. І ён, дастаўшы з кішэні чырвоны гальштук, адзеў яго на шыю ашаломленага ад неспадзяванасьці Саліха.

Вось твой прыз.

Ты заслужыў яго.





# Самаед-рабфакавец

*Апавяданьне Л. НЭЙМАН*

Восень дажывае свае апошнія дні. Сонца ледзь паказваецца на небе. Тундра пакрываецца першым тонкім лёдам. З востраву Маржавец адыходзіць апошні параход.

— Гу-у-у-у! — коціцца далёка па востраве зычны гудок.

Жудасна слухаць гэты гудок. Усе ведаюць: надыходзіць доўгая зіма. Не хапае пораху, яды. Будзе цяжка. А белы параход дае апошні сьвісток, шуміць, здымаецца з якару.

На беразе, сьпераду гурту людзей — самаед пажылых гадоў, прысадзісты, адзеты ў кажух з шкуры аленя. Яго твар спакойны, але вузкія вочы глядзяць у адзін бок. На палубе параходу яго малодшы сын, малады яшчэ хлопец. Параход некалькі разоў паварачваецца носам то ў адзін, то ў другі бок. Бацька доўга яшчэ глядзіць на невялічкую постаць сына і клуначак поруч з ім...

Параход усё далей адыходзіць ад берагу. Здалёку відаць толькі белая пляма на цёмнай вадзе. І малы самаед здаецца з берагу маленькай чорнай плямкай. Прапала плямка, толькі бялее вузкай рыскай параход... І яна згінула.

Сын паехаў вучыцца на рабфак. Стары самаед ня вельмі разьбіраецца, што гэта за навука. Ён ня ведае — добра гэта будзе ці не. Ведае толькі адно: маладых самаедаў на востраве шмат. А вось выбралі яго сына. Значыцца, гэта добра, і ехаць патрэбна было.

Доўга цягнецца зіма. Усё ноч



і ноч, цёмна ды цёмна. А якія доўгія зімовыя вечары. Трашчыць агонь ад запаленай лучыны ў хаце самаеда. У тундры вые вецер, сыпле сьнег. Наляціць на чум[1]), патушыць праз шчыліны лучыну. Стане цёмна ў чуме. Цёмна навакол. Вось калі больш за ўсё самаед думае пра сына. „Дзе гэты Ленінград? Напэўна далёка. Не зацерла-б хаця параход лёдам. Ці ёсьць у сына што есьці? Хаця-б мець ад яго вестку, усё спакайней было-б чакаць...“

* *
*

Мінулі доўгія восем месяцаў. Але зіма яшчэ не ўцякла.

Па тундры хутка нясуцца лёгкія нарты[2]). У іх запрэжана тройка аленяй. Дарогі няма ніякай. Нарты перакульваюцца праз вялізарныя сьнегавыя гурбы. Белы сьнег сьлепіць вочы. Ня відаць канца далёкай тундры. Самаед зьлёгку пакачваецца, седзячы на нартах. У руках яго доўгая палка. Аднак алені і бяз палкі бягуць борзда і дружна. Чалавек на нартах з любасьцю глядзіць на жывёл. Ды чаму-ж ня любіць іх: гэта-ж лепшыя сябры ў паўночнай пустыні. Без аленяй ён прапаў-бы тут.

Не хацеў ехаць на прыстань самаед. Але што рабіць? Ад жонкі няма супакою. Колькі часу ганяе яна яго, — паедзь ды паедзь на прыстань.

— А чаго ехаць?—казаў ён.— Зіма, кругом лёд.

— А там, на прыстані, сядзяць вучоныя людзі, там радыё, там усё ведаюць.

І вось прышлося ехаць. На прыстані нават паказацца брыдка. Запытаюцца, чаго прыехаў,— што ён на гэта адкажа? Вестак чакае ад сына?

— Чакаў восем месяцаў, пачакаеш дзевяты, — адкажуць яму.



Але стары самаед на гэты раз не даехаў да прыстані. Пачалася страшэнная мяцеліца. Адразу нібы-та ўся тундра паднялася, панеслася белай коўдраю, разарвалася белымі палотнамі і паляцела з месца на месца. Алені сталі. За міг нарты пакрыліся сьнегам. Сьнег схаваў пад сабою і чалавека і жывёл. Насілу самаед выбраўся з-пад сьнегу, павярнуў аленяў і сяк-так дабраўся да свае чумы.

* *
*

1) Самаедзкая хата.
2) Санкі.

У чэрвені месяцы, калі прышла вясна, зноў паехаў на прыстань. Цяпер ён ведаў, што едзе не дарэмна. Маленькія вочкі на шырокім твары глядзяць вясялей. Ён не адзін, побач з ім яго жонка. Яна радуецца цяплу. Алені сьпяшаюцца, хоць ім і цяпер ня лёгка. Трэба перабягаць праз рэчкі, на якіх плавае лёд, цягнуць са сабою нарты.

На прыстані ўжо чакаюць параходу. Тут і працаўнік радыёстанцыі, і рыбакі, і паляўнічыя, і матросы з ледаколу. Шмат народу. Вось радасьць: пошта прыдзе. Хто не пасьпеў, бяжыць да берагу, хаця параходу яшчэ ня чутно. І ва ўсіх многа надзей, — пошта прыдзе...

Цяжка пыхкае параход. Да берагу прыстае. Капітан аддае апошнія загады, а сам паварачваецца да берагу.



*Хлопчык-самаед.*



*Дзеці поўначы—эскімосы.*

Першым сыходзіць з параходу паштовы працаўнік. У яго ў руках лепшае багацьце—доўгі паштовы мяшок. Яго абступаюць з усіх бакоў. Тут ня толькі лісты, а ўсякая літаратура,—і газэты, і часопісі. Не бяда, што яны надрукаваны дзевяць месяцаў таму назад. Тут, на поўначы, яны сьвежыя і цікавыя.

Самаед з жонкай стаяць, чакаюць. Дзе-ж прывітаньне ад сына? Вось-жа прыехалі здалёку людзі, няўжо сын ні з кім прывітаньня не паслаў?

Аж тут самаеду штосьці сунулі ў рукі. Нейкая шэрая заклееная папера. Ніколі такой ня бачыў. Што рабіць з ёю.

Да яго падышоў настаўнік, які прыехаў з далёкага краю.

— Дай прачытаю табе.

Слухае самаед, што сын піша:

„Я жыў, здароў. Вучуся. Жыву добра. А праз два гады прыеду на востраў. Настаўнікам буду. І будзе ў нас свая школа. Навучу самаедаў чытаць і пісаць. Прыедзьце да мяне ў госьці, пакуль параходы ходзяць. У Ленінградзе гасьцей сустракаюць добра“.

Яшчэ шмат аб чым пісаў сын. Усю паперу сьпісаў.

Склаў хорашанька самаед ліст. Схаваў яго глыбей.

Зноў сьлізгацяць лёгкія нарты.—Часьцей падымаецца доўгая палка над аленямі. „А яшчэ каму-б даць прачытаць ліст? — думае самаед. — Добры ліст“...



## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

### ШТО СТАРЭЙШАЕ: НОЖ ЦІ ВІДЭЛЬЦЫ?

**Нож і відэльцы заўсёды разам, як брат і сястра. А ці ведаеце, што нож на многа тысяч гадоў старэйшы за відэльцы? Нож быў і ў першабытных людзей, праўда, не жалезны, а каменны. А відэльцамі сталі есьці гадоў трыста назад.**

**Відэльцы былі ня гэтакія, як цяпер. Было ўсяго два зубы, а ручка была кароценькая—не даўжэй, чым зубкі.**



*Нож першабытнага чалавека.*

### ЦІ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ТАЛЕРКІ?

**Талеркі таксама выдуманы ня так даўно. Замест талерак раней на стол клалі вялікія кавалкі хлеба. Мяса клалі на хлеб, а рэдкую страву елі з агульнай міскі. Калі людзі былі багатымі, яны пасьля абеду аддавалі свае зробленыя з хлеба талеркі слугам. Багатыя, значыцца, елі мяса, а слугам заставаліся на абед „талеркі“.**




*Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ.* *Малюнкі РОЗАНАВА.*

— Хлопцы! Ведаеце што? Нам трэба сур'ёзна падумаць пра нашых дурасьліўцаў, — сказаў аднаго разу Косьцік.

— Але, але, трэба неяк памагчы ім стаць добрымі акцябратамі,—згадзіліся іншыя дзеці.

— Але як?

— А я вось прыдумаў. Трэба ў нашую насьцен-газэту пра іх напісаць, ды з малюнкамі. Яны тады адразу палепшаюць,—казаў Міхась.

— Як?.. Што?.. Ну, кажы,— загудзелі акцябраты.

— Вы ведаеце, што ў „вялікіх" газэтах ёсьць малюнкі. Калі хто што зрабіў кепскага, яго намалююць і напішуць пра яго ў газэце. А ўсе чытаюць і бачаць вінаватага.

— Так, але-ж для гэтага трэба добра ўмець маляваць.

— Мы гэтага ня зможам зрабіць,—затурбаваліся дзеці.

— Маляваць ня трэба. Я другое прыдумаў. У мяне ёсьць фотографічны апарат, і ў Міколкі ёсьць. Мы павінны з гэтымі апаратамі прыходзіць на зборы групы. І калі хто будзе дурэць, мы яго і здымем на картачку. Тады—у газэту. Вось і ўсё.

— Гэта цікава. Вось дык прыдумаў! — Маладзец, Міхась! — згадзіліся дзеці.

На другі дзень хлопцы нарыхтавалі апараты і прышлі на збор групы. Акцябраты трымалі сябе добра, нікому не хацелася папасьціся ў насьцен-газэту.



Нават самыя большыя дурасьліўцы, Сымонка і Валодзік, і тыя неяк паспакайнелі.

Міхась і Мікола кожны раз насілі з сабою апараты, толькі-ж зьняць нікога не ўдавалася. Але аднаго разу дурасьліўцы ўсё-ж ня вытрымалі. Сымонка падбег да Валодзіка:

— А ў цябе дзірка на сьпіне. Ага!

— Дзе? Дзе?

— Ды вунь, вунь,—дражніў Сымонка Валодзіка і штурхаў яго лінейкаю ў сьпіну.

— Сымонка, ён з цябе сьмяецца, ніякай дзіркі няма,—сказала Тацянка.

— А, дык ты гэтак!—закрычаў Валодзік і кінуўся на Сымонку.

Пачалася бойка. Дзеці зьбіліся ў кучу, разбаранялі іх, але нічога ня выходзіла. А Міхась цішком падкраўся і хлопнуў апаратам. Раз!.. гатова! Зьняў. Ніхто з дзяцей і не заўважыў...

У наступны раз, калі ўсе прышлі ў свой акцябрацкі пакой, адразу заўважылі.

— Што гэта? Хто гэта? Няўжо Сымонка з Валодзікам? Ды гэта-ж, калі яны пабіліся за „дзірку".

Да насьцен-газэты не падступіцца.

— Вось дык зьняты, як жывыя.

— А брыдка як вісець тут!..

Сымонка і Валодзік стаялі з боку, чырвоныя ад сораму. Гэта-ж цяпер усе, усе будуць бачыць іх—і піонэры, і бацькі, і настаўнікі...

Сымонка і Валодзік паклікалі да сябе Міхася і папрасілі яго, каб зьняў з газэты малюнак.



— Мы ніколі, ніколі ня будзем больш гэтага рабіць...

Міхась параіўся з некаторымі дзецьмі і на гэты раз парашылі зьняць картку. Але яна была так моцна прыклеена, што адарваць яе не ўдалося. Тады хлопцы заклеілі картку белаю паперою, а на ёй напісалі:

„У нас больш няма дурасьліўцаў".

г. Харкаў.

Клім Качкін

# ЯК ЯНЫ РАКА ЗЛАВІЛІ



У прыпарны летні дзень
У хаце хлопцам не ўсядзець.

Вось і выбеглі на горку
Янка, Паўлік ды Рыгорка.

А за горкаю, за гаем,
Ціха рэчка прабягае

Праз лагчыны, пад масты,
Праз зялёныя кусты.

Каля лодкі
Плешчуць плоткі.

Прамільгнулі ў цішыні
Лёгка, дружна
Пад каругай
Валацугі-акуні.

Верхаводачкі пад мосьцікам
Водзяць хвосьцікам.

Уцякае ад яршоў
Стайка дробных пяшкуроў.

Самавіты дзядзька сом
З вусам, з белым жыватом
Па вадзе пляснуў хвастом.

А на самым дне ракі
Ходзяць гуртам шчупакі.

Рэчцы-ж хочацца хутчэй
Пакупаць малых дзяцей...

Перабеглі тут за горку
Янка, Паўлік ды Рыгорка.

Каля вербаў ды ракіт
Мчацца хлопцы да ракі.

Распрануліся
на хаду,
Пакідаліся
ў ваду.





Паўцякалі ў глыб ракі
Акуні
І шчупакі.

Кінуліся плоткі
З яршамі пад лодкі.

Толькі белы дзядзька сом
Ціха ходзіць за кустом.

З крыкам, з радаснай гамонкай
Паплылі наперагонку
Янка ды Рыгорка.

А Паўлюк маленькі стаў
Ля кудлатага куста
І заплакаў раптам горка.

Гэта рак-ліхадзей,
Як пабачыў дзяцей,

Узлаваўся наўзьдзіў,
За нагу яго схапіў.

Плача Паўлік, плача,
Ля берагу скача.

Да яго наперагонку
Плывуць Янка ды Рыгорка.

Выцяглі на бераг,
На пясочак шэры.

Кажа Паўлік: „Нібы
Укусіла рыба“...

„Што тут ён вярзе:
Гэта-ж рак на назе“.

Рака зьнялі з ножкі,
Паклалі у кошык,

Прынесьлі дахаты,
Паказалі тату.

Цётка Марыля
Рака зварыла.

Елі рака, елі—
Дагэтуль ня зьелі.

Так ня стала рака,—
Згінуў небарака.



# ТВОРЧАСЬЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## СПАБОРНІЦТВА

На нашым дварэ жылі тры хлопчыкі: Міхась, Янка і Міколка. А на суседнім жыло два: Алесь і Петрык, і тры дзяўчынкі: Волька, Валя і Зоська.

Хлопчыкі з нашага двара вельмі не сябравалі з суседнімі: заўсёды біліся.

Аднаго разу ўсе сабраліся і давай спрачацца. Тады Волька, каб памірыць іх, закрычала:

— Ціха, дзеці, я вас паміру.



Усе заціхлі.

— Давайце наладзім спаборніцтва на тое, каб жыць у згодзе. Хто першы ня стрымае і пачне біцца, той прайграе спаборніцтва.

Дзеці гэтым зацікавіліся.

— Давайце!—крычаць хлопцы.

Потым дзеці наладзілі сход, выбралі Вольку за старшыню, а Міколку за сакратара. Волька ўзяла кавалак паперы і запісала ўсіх дзяцей.

— А цяпер,—кажа Волька,—заключым дагавор па дваіх—хто з кім хоча?

Дзеці пачалі крычаць, але потым усё-ж дагаварыліся. Волька ўзяла сшытак, запісала, хто з кім спаборнічае. І пачала запісваць, як хто сябе трымае.

Дзеці з гэтага часу стараліся жыць у згодзе. Але нядоўга. Петрык з Янкам ня вытрымалі і пабіліся.

Калі мінула паўгода, Волька склікала ўсіх дзяцей. Яна сказала, што ўсе вытрымалі спаборніцтва, толькі Петрык з Янкам не. Іх мы выключылі з свайго сьпіска, а самі зноў заключылі дагавор на паўгода.

**Налівайка Р.**

# У КОЛГАСЕ

Мы жывем на адным з завулкаў гораду Магілеву. Мінулым летам я, мая сястрычка і мой тата езьдзілі ў колгас да свае радні. Спачатку я сароміўся вясковых дзяцей, якія здалёку зьдзіўлена пазіралі на мяне.

— Глядзі, як прыбраўся, бы той міліцыянэр, — прамовіў адзін з гурту дзяцей.

І сапраўды, жоўты з пугачом кабур, які вісеў у мяне праз правае плячо, надаваў выгляд міліцыянэра. Неўзабаве да мяне падышоў мой таварыш Валодзька. Зараз-жа праз некалькі хвілін мы сумесна з усімі астатнімі дзецьмі пачалі гуляць у коні і іншыя гульні. Доўга мы бегалі па вуліцы, падымаючы вялікія слупы пылу. Заняўшыся гульнёю, не хацелася нават і есьці.

І толькі тады, калі заходзячае сонца афарбавала хмары ў ружовы колер і калі дзесьці ў канцы вуліцы забляялі авечкі, прышлося пакінуць гульню, даўшы месца праходу авечкам.

Павячэраўшы, змарыўшыся дзённай гульнёю, лёг спаць. Доўга я ня мог заснуць. У галаве ўсё паўставалі малюнкі гульні і мітусіліся дзеці. Назаўтра, яшчэ зранку, гуртам прышлі мае таварышы, і з гэтага дня пачалося маё вясёлае жыцьцё на вёсцы. Ня было таго дня, каб на вуліцы супроць хаты, дзе жыў мой дзед, стаяла поўная цішыня. Яшчэ здалёку чуваць крык і сьмех дзяцей. Пакончыўшы з гульнёю, мы ўсім гуртам ішлі ў лес, дзе зьбіралі жалуды, шышкі і елі ягады.

Настаў час сенакосу, і я з дзедам, татам і іншымі сялянамі-колгасьнікамі езьдзілі на сенажаць.

**Ц. Караткевіч.**



## НА КРЫЗЕ

У адзін сонечны вясновы дзень каля рэчкі сабралася многа дзяцей. Яны тут езьдзілі на крыгах у канаве, якая ўпадала ў рэчку.

І вось два хлопчыкі селі на крыгу і сабраліся ехаць. У аднаго з іх быў кол. Ён упёрся калом, каб адапхнуцца ад берагу. Але здарылася так, што крыга пашла, а кол моцна залез у гліну. Хлопчык ня мог яго вырваць і выпусьціў з рук. Крыга паплыла ў рэчку.

Хлопчыкі перапалохаліся і ня ведалі, што рабіць. Іншыя дзеці з плачам пабеглі ў вёску. Там сказалі старэйшым, і ўсе разам прыбеглі на раку. Хлопчыкі ўжо далёка адплыліся па рацэ. Але ў адным месцы набралася многа крыгаў і ня было ходу. Тут спынілася і крыга з хлопчыкамі. Тады адзін чалавек кінуў хлопчыкам канец вяроўкі. Яны ўхапіліся за вяроўку і так іх падцягнулі да берагу.

**Ляк'янаў Паўлюк.**



## ГАДУЙЦЕ ТРУСОЎ



*Ля кармушкі.*

А. СЕРАФІМОВІЧ

# ЯК АДАСІК ВЫРАТАВАУ ЗАЙЧЫКА



Адасік бег полем і ўбачыў: ад крумкача абараняецца і жаласна пішчыць зайчык.

Узьнімецца крумкач, зайчык скокне раз, два, тры, а той упадзе на яго і пачне біць дзюбаю і рваць пазурамі. Адасік моцна закрычаў і кінуўся да зайца, махаючы рукамі. Крумкач нехаця ўзьняўся і паляцеў.

Зайчык увесь сагнуўся ў камячок і не шавяліўся. Пакорна паклаў вушкі на сьпінку і пазіраў вялікімі пукатымі вачыма. Поўсьць на ім мяккая, як пух,— зайчык быў зусім маладзенькі, малочны. Адасік, асьцярожна трымаючы, панёс яго дахаты, прыгаварваючы:

— Ах ты, зайка-шалапайка. Бедненькі... Глядзі ты, як гэта ён, пракляты, цябе пакусаў.

Дома на дварэ ён убачыў матку.

— Мамачка, мамачка! — закрычаў Адасік,—паглядзі, каго я злавіў,—і паказаў зайчыка.

Адасік пабег да сьвіронка, каб там дзе знайсьці месца для зайчыка. Але калі падбег да дзьвярэй, заяц раптам выпраставўся, як спрунжына, штурхануў у грудзі, скокнуў на зямлю і, не пасьпеў маргнуць Адасік, зьнік пад сьвірнам у вузкай дзюрцы, прагрызенай пацукамі.

Адасік прыпаў жыватом да зямлі і доўга глядзеў у дзірку, але там было цёмна і пуста.



■ ■ ■ - ■ ■

# ДРУЖНАЯ СЯМ'Я



## I. МУРАШНІК

Міхалка, Васілёк і Лявонка гулялі недалёка ад свайго дому, у лесе. Глядзяць яны, аж стаіць высокая кучка на зямлі. Узяў Васіль палачку і раскапаў яе. Глянуў, а там мурашкі. Многа-многа чорных мурашак забегала. Бегаюць яны, клапоцяцца. Адны цягнуць беленькія яечкі, доўгія, як самі мурашкі, іншыя нясуць або пясчынку, або дубчык, саломінку, кавалачак дрэва. Такая ўтварылася мятушня ў гэтай кучцы. Адна мурашка хоча павярнуць грудку зямлі. Але грудка вельмі вялікая. Ня здужае яе мурашка. Убачылі гэта іншыя,—бягуць дапамагчы таварышцы, абляпілі грудку з усіх бакоў. Павярнулі гуртам яе і пасунулі да мурашніку. Цягнуць грудку, каб заваліць уваход у мурашнік. Неўзабаве мурашкі пахавалі ўсе белыя яечкі ў мурашніку. Як добра ўсё рабіць гуртам.

## II. ЯК ЖЫВУЦЬ МУРАШКІ

Мурашнік—гэта вялізарны будынак мурашак. Вы думаеце ў гэтай кучы бяз ладу панакідана зямлі, дубчыкаў і саломінак? Не. Мурашкі збудавалі сабе вельмі прыгожы будынак. Тут у іх ёсьць вялікія пакоі, калідоры і нават пакойчыкі для дзяцей. Тут многа выхадаў з мурашніку. Гэтыя выхады яны нанач і ў дождж зачыняюць, каб ворагі ня трапілі ў іх будынак.

У мурашніку ёсьць рабочыя мурашкі. Яны будуюць мурашнік і даглядаюць дзяцей. Ёсьць там і салдаты. Яны бароняць мурашнік ад розных ворагаў. У іх ёсьць матка. Яна толькі нясе яечкі. Сьмешная яна. Жывоцік у яе гладкі-гладкі. Яна нічога ня робіць, а толькі нясе яечкі. Нясе яна так: ідзе ў пакой і выпускае з сябе многа яец. Рабочыя мурашкі бегаюць за ею, зьбіраюць яечкі, змочваюць іх сьлінаю, каб лепш расьлі, і кладуць іх уздоўж сьцяны ў пакоі.

Неўзабаве з белага яечка выходзіць чарвячок. Зноў ёсьць праца рабочым мурашкам. Яны гадуюць чарвячкоў, і калі добра сьвеціць сонца, выносяць іх наверх пагрэць. Калі чарвячок вырасьце, дык пачынае выпускаць з сябе тоненькую нітачку і гэтай нітачкай абгортвае сябе. Ён становіцца як лялька. Цяпер гэтай лялечцы ня трэба есьці,



але рабочыя мурашкі носяць яе штодня гуляць. Калі ў ляльцы вырасьце ўжо сапраўдная мурашка і пара ёй выходзіць, рабочыя мурашкі разрываюць мяшочак і дастаюць адтуль маладую мурашку. Потым яны распраўляюць ёй ножкі і вусікі, выносяць на сонца, каб скарэй абсохла і паправілася.

## III. КАРОВЫ У МУРАШАК

Міхалка неяк быў вырваў галінку з гарошынкі. На той галінцы і на лісьціках ён убачыў маленькіх зялёных казявак. Яны такія-ж зялёныя, як і лісточак. Цельца ў тае казяўкі гладкае, нізкае, ножкі тоненькія, зялёныя і вусікі тоненькія-тоненькія. Гэта была тля. Яна выпускае з жыватка салодкі сок. Гэты сок вельмі падабаецца мурашкам. Там, дзе бывае тля, можна ўбачыць і мурашак. Мурашкі не чапаюць тлі, яны толькі п'юць салодкі сок з яе. Яны нават умеюць даіць тлю, як мы доім кароў. Мурашкі сваімі пярэднімі ножкамі гладзяць тлю па сьпінцы, а тая выпускае сок.

Мурашкі ніколі ня крыўдзяць тлю. А некаторыя нават пераносяць тлю бліжэй да свайго мурашніку і даглядаюць яе.

---

# СЬМЕЛЫЯ КРАЎЦЫ

(*Жарт*)



Нашыя краўцы
Сьмелыя хлапцы.

Не баімся мы зьвяроў —
Ні мядзьведзяй, ні ваўкоў!

А як згледзелі смаўжа,
Дык наперад ні на шаг,—

Напужаліся,
Паразьбягаліся.

Вось якія малайцы
Сьмелыя краўцы!

К. ЧУКОЎСКІ.



# ЯК ЗРАБІЦЬ САМАСТРЭЛ



## Для гэтага патрэбны:

**Матар'ялы:** дошка даўжынёю 50—70 см., таўшчынёю—2 см. Абруч драўляны, шпагат, фанэра, палачкі (для стрэлаў).

**Інструманты:** вузкая піла, шархублік, рубанак, нож складаны, сьвердзел або долата і рашпіль.






1. Намалюй на выструганай дошцы форму стрэльбы і выпілуй яе па абведзенай алоўкам рысцы.

2. Выраж ножыкам раўчук для стралы. Пракруці сьвярдзёлкам ці прадзяўбі долатам дзірку для лука. Абчысьці рашпілем ці нажом канцік самастрэла, каб не пастраміць рук.



3. Зрабі з гарэшыны лук і нацягні яго, як паказана на малюнку.

4. З фанэры зрабі курок і прымацуй яго збоку самастрэла каля раўчука.

5. Зрабі некалькі стрэлаў, канец ня лішне загострывай.






# ЯК ЗДАБЫВАЮЦЬ СОЛЬ

Малога Петрыка даўно цікавіла тое, адкуль соль бярэцца. Дома яму ніхто ня мог гэтага растлумачыць. Але вось Петрык стаў вучнем першай групы. Аднаго разу ён у час перапынку падышоў да настаўніцы і запытаўся:

— Цётка Насьця, раскажэце, адкуль соль бярэцца?

— Добра, —сказала настаўніца,—зьбірайцеся, раскажу.

Перапынак скончыўся і дзеці ўсе сьціхлі. Настаўніца пачала:

— Ці ведаеце вы, што такое соль?—спыталася яна.

— Ведаем, ведаем,—загаманілі дзеці.

— А адкуль-жа яна бярэцца?

— Гэтага ня ведаем...

— Ну, дык вось, — казала настаўніца,—у вадзе, якую вы п'яце, ёсьць соль, але так мала, што вы яе не адчуваеце. Уся вада з рэчак цячэ ў мора. У моры многа вады выпарваецца — вада ў выглядзе пары ідзе ў паветра, а соль застаецца. І вось з часам у моры набралася гэтулькі солі, што вада там стала вельмі салёнай.

Дык вось людзі і надумаліся здабываць соль з морскай вады. Для гэтага на беразе мора капаюць няглыбокія ямы і напускаюць у іх морскай вады. Сонца грэе, а ад гэтага вада з ямаў выпарваецца і ідзе ў паветра, соль-жа зьбіраецца на дне. Тады соль зьбіраюць. Калі соль бывае вільготная, тады яе кладуць на вялікія скавародкі і грэюць на агні. Рэштка вады выпарыцца, а на скавародках застаюцца белыя дробкі. Гэта і ёсьць соль.

**Н. Іванчэнка.**






*(З ЖЫЦЬЦЯ ПЧОЛ)*

Яшчэ не пасьпеюць прамень-ні сонца пазалаціць галоўкі ўсіх кветак на сенажацях, а ўжо там жужгаціць, клапоціцца пчолка.

Гэта пчолка шукае ў вяноч-ках кветак салодкага соку.

Пералятаючы з расьлінкі на расьлінку, апісвае яна над кет-камі замыславатыя петлі і, як-бы пакінуўшы гэтую пятлічку, пчол-ка садзіцца часам на кветку, прыпадае да яе і п'е салодкі мядовы сок.

Ня доўга лётае пчолка-мах-натка па лузе. Кветкі ў сваіх вяночках шмат прызапасілі для яе мёду, і яна хутка напілася. Цяпер яна ляціць у свой вулей.

У вульлі цёмна. На сьценках, на сотах шмат іншых пчол. Не-каторыя яшчэ сьпяць; другія зьбіраюцца вылятаць.

Махнатка, уляцеўшы ў вулей, прынесла з сабою і гоман сьве-жай раніцы, і пах палявых кве-так, тых, з якіх піла яна сок.

Адразу прысела на соту і адрыгнула капку мёду.

Пах і капка мёду ўзварушылі сядзеўшых бліжэй да махнаткі пчолак. Яны ўзрушыліся і па-чалі прынюхвацца да яе.

А махнатка, тымчасам, па-чала свой, як кажуць, „мядовы танец“:

Абабегла па соту маленькім кругам, спачатку ў адзін бок, а потым у другі, так некалькі кругоў, усё мяняючы напрамкі.

Пчолкі падляцелі да яе: перш адна, потым другая, трэцяя і яшчэ некалькі, і разам з махнаткай пачалі кружыцца па соту.

Кружыліся ня доўга. Мах-натка раптам скончыла свой танец і зноў паляцела ў бок лугоў. Але цяпер за ёю паля-целі і яе таварышкі па танцу.

Пчолкі запомнілі пах кветак, якім надушылася махнатка, і пачалі шукаць падобных кветак.

**Траўка.**

**Міколка.** Ня прымем.

**Ніна.** Як-жа бяз мячыка?

**Петрык.** У цябе ёсьць стары—мы ў яго і пагуляем. Пашлі, дзеці. (*Выбягаюць*)

### Зьява 4-ая

(Рыгорка адзін)

**Рыгорка.** Пашлі? Во яны якія— адабраць захацелі. Я адзін буду гуляць. (*Кідае, ловіць*). Ох, які харошы! Я нават песеньку склаў:

Мячык, мычык,
Борзда скача;
Скок, скок, скок!

Трэба дзецям расказаць. Цяпер пакідаю вось так. (*Кідае па іншаму*). Ох, нават змарыўся.

### Зьява 5-ая

(Праходзіць Ніна з старым мячыкам)

**Рыгорка.** Слухай, якую я песьню прыдумаў. Мячык, мычык...

**Ніна.** Я не хачу слухаць...

**Рыгорка.** Ты пачакай, куды ты?

**Ніна.** Пусьці, гуляй адзін. Я да дзяцей іду (*Ідзе*).

**Рыгорка.** Пашла? Ну і няхай. У іх стары мячык, а ў мяне новы. Мой лепшы. (*Зноў гуляе з мячыкам*). Вось як скача. (*За сцэнай сьмех, галасы: саль яе, саль*). Яны ў салкі гуляюць. У мячык-салку. Маім мячыкам лепш гуляць. Ах, як я люблю гэтую гульню!..

### Зьява 6-ая

(Тыя-ж і Міколка бяжыць за Таняй)

**Міколка.** Даганю. Асалю.

**Рыгорка.** (*спыняе*). Пастой.

**Міколка.** Чаго табе?

**Рыгорка.** Вы ў мячык-салку гуляеце?

**Міколка.** Але.

**Рыгорка.** А ў мяне новы мячык. Маім лепш.

**Міколка.** Ну і гуляй сабе адзін. (*Бяжыць*).

**Рыгорка.** Як-жа я буду гуляць адзін? Аднаму нельга. Вось кідаць можна (*Кідае*). А мне гэта надакучыла. Але больш і рабіць няма чаго. (*Глядзіць за кулісы*). А яны цяпер у перакідку гуляюць. Хто ня зловіць, той на калені. А мне нельга гуляць. Эх... Петрык не злавіў.

### Зьява 7-ая

(Петрык бяжыць за мячыкам)

**Рыгорка** (*затрымлівае мячык*) На.

**Петрык.** Дзякую.

**Рыгорка.** Вы прымеце мяне гуляць?

**Петрык.** Не, у нас стары мячык, ты гуляй адзін у новы.

**Рыгорка.** А вы гуляйце ў мой мячык.

**Петрык.** Не, мы яго запэцкаем. Гуляй адзін (*Ідзе*).

**Рыгорка** (*адзін*). Гуляй адзін. Якжа я буду гуляць? Ды ў гурце весялей... Гадкі мячык, усё з-за яго вышла. Цяпер ніколі яны мяне ня прымуць... (*Штосьці падумаў і кліча*). Дзеці, дзеці, дзеці!

### Зьява 8-ая

(Прыбягаюць усе)

**Міколка.** Ну, што з табою?

**Рыгорка.** Дзеці, ведаеце што, давайце так зробім, гэты мячык будзе агульным: хто хоча, той і гуляе, добра?

**Маня.** Аднаму табе лепш.

**Рыгорка.** Не, зусім нядобра: і сумна і няма чаго рабіць.

**Петрык.** Ну, дзеці, як? Рыгорка сам цяпер убачыў.

**Усе.** Добра. Давай.

**Ніна.** І я свае цацкі агульнымі зраблю.

**Астатнія.** І я. І я.

**Петрык.** Ну, дзеці, вось цяпер якія мы багатыя.

**Рыгорка.** А гуляць мяне прымеце?

**Петрык.** Раз усё агульнае—значыць гуляй.

**Міколка.** Я вазьму твой мячык.

**Рыгорка.** Ён мой і твой.

**Ніна.** Вось гэта здорава.

**Петрык** (*да публікі*). Дзеці, а вы яшчэ гэтага не зрабілі. Давайце хутчэй, бачыце, так куды лепш. Ну, запявай. (*Гуляючы ў мячык, сьпяваюць песьню, з якой пачынаюць*).

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"
Рэдкалегія: РАЦЭВІЧ В., (адк. рэдактар). ШПІЦЭР У., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сакратар).

Дзяржаўна бібліятэка БССР імя У. І. Леніна

Цана № 7-8 25 кап.

1119

# ЗАГАДКІ І ЗАДАЧЫ

## ЗАГАДКІ

1. Б'юць мяне каламі, рэжуць мяне нажамі, за тое мяне так губяць, што ўсе мяне вельмі любяць.

(Хлеб)

2. Два браты ўцякаюць, а два даганяюць, але-ж ні пярэднія ня могуць уцячы, ні заднія дагнаць.

(Кола)

3. Сьляпы ўбачыў зайца, бязногі злавіў яго, а голы схаваў у кішэнь. Што гэта такое?

(Хлусьня)

4. Стаіць певень над вадою з чырвонаю барадою,—хто ня ідзе, за бараду ўшчыпне.

(Каліна)

5. Круглы млынок, а ў ім поўна калёсікаў, і каменьні дарагія. І дзень, і ноч ён меле, а мукі ні жмені.

(Гадзіньнік)

6. Сюды круць, туды верць, а перакручу,—будзе сьмерць.

(Ключ)

7. Хто найбольшы ў сьвеце чалавек?

(Грамада)

## ЗАДАЧЫ

I

Па шырокай рацэ плывуць 2 параходы: „Ленін“ і „Сталін“; насустрэч ім плывуць два новых параходы: „Рыкаў“ і „Калінін“. У гэтым месцы рака гэтак вузка, што параходам нельга разьмінуцца, але з аднаго боку ракі знаходзіцца затока, у якой можа зьмясьціцца адзін параход.




Як разьмінуцца параходам?

II

У школе далі вучням пісаць пісьмовую працу на тэму „З чаго складаецца цела чалавека“. Адзін вучань між іншым напісаў: „Усіх пальцаў у мяне дваццаць пяць на аднэй руцэ, гэтулькі-ж на другой руцэ, ды на абедзьвюх нагах дзесяць пальцаў“.

Ці ня можаце вы растлумачыць, як гэта вучань зрабіўся такой калекай — на кожнай руцэ мае па 25 пальцаў?

---

**АКЦЯБРАТЫ, ВУЧНІ, ПІОНЭРЫ!**
**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ СВАЮ ЧАСОПІСЬ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“.**

Заказ № 2190. 1.800 экз. Галоўлітбел № 2492.

Друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва імя т. Сталіна.